Бярэйшык, Л. У. Памятныя кніжкі губернскіх статыстычных камітэтаў / Л. У. Бярэйшык // Працы гістарычнага факультэта БДУ: Навук. зб. Вып. 4 / Рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.] — Мн: БГУ, 2009. — С. 155–160.

***Л. У. БЯРЭЙШЫК***

# ПАМЯТНЫЯ КНІЖКІ ГУБЕРНСКІХ СТАТЫСТЫЧНЫХ КАМІТЭТАЎ

Актуальнай навуковай задачай сёння з’яўляецца выяўленне і ўвядзенне ў навуковы абыходак інфармацыі, заключанай у асноўных мясцовых друкаваных крыніцах, да ліку якіх можна аднесці памятныя кніжкі губернскіх статыстычных камітэтаў, якія выходзілі ў другой палове XIX — пачатку XX ст.

Губернскія статыстычныя камітэты былі створаны ў 1834 г. Усяго ў Расійскай імперыі існавала 89 губернскіх і абласных камітэтаў. Яны павінны былі займацца зборам і абагульненнем звестак пра народанасельніцтва, прамысловасць, сельскую гаспадарку і г. д. Звесткі ў камітэты паступалі з органаў мясцовай адміністрацыі (валасных упраў, сельскіх таварыстваў, народных упраў, гарадскіх і паліцэйскіх упраў), а таксама непасрэдна з устаноў. Акрамя гэтага, у абавязкі камітэтаў уваходзіла правядзенне дзяржаўных перапісаў насельніцтва, асобных гаспадарак на тэрыторыі губерняў. У адпаведнасці з «Положением о губернских и областных статистических комитетах», выдадзеным у 1860 г., на іх ускладвалася праца па складанню спісаў старажытных помнікаў, зборы гістарычных дакументаў са звесткамі аб часе іх узвядзення і перабудове, чарцяжы, фотаздымкі, копіі з больш ранніх выяў і г. д. Каштоўнасць гэтых матэрыялаў вызначаецца тым, што члены камітэтаў бралі інфармацыю з прыватных і правінцыяльных архіваў, якія не трапілі ў поле зроку сталічных даследчыкаў.



З першага дня існавання ў губстаткамы передаваліся ўсе незвычайныя і старажытныя рэчы. Так пачалі складвацца калекцыі гэтых устаноў. Больш значныя передаваліся ў акадэмічныя музеі, а частка іх заставалася ў статыстычных камітэтах. Такім чынам, пры губернскіх статыстычных камітэтах пачалі стварацца музеі старажытнасцей. Музей пры магілёўскім статкамітэце быў заснаваны 15 лістапада 1867 г. У 1878 г. ён меў тры аддзелы: гістарычны, этнаграфічны і геаграфічны. Падмуркам стала калекцыя сельскагаспадарчых вырабаў і этнаграфічных матэрыялаў, якую збіралі для выставы ў Маскве. Першыя экземпляры калекцыі былі накіраваны ў Маскву, а іншыя засталіся ў Магілёўскім музеі [1]. Музеі існавалі таксама пры мінскім, віцебскім і гродзенскім статыстычных камітэтах.

Вакол камітэтаў групаваліся мясцовыя энтузіясты, навукоўцы, краязнаўцы, што пераўтварала іх у значныя правінцыяльныя навуковыя цэнтры.

Адным з абавязкаў статкамітэтаў было друкаванне вынікаў даследаванняў, якія тычыліся самых розных бакоў жыцця губерні. Першапачаткова іх матэрыялы друкаваліся ў цэнтральных выданнях: «Журнале Министерства внутренних дел», «Журнале Министерства народного просвещения». З канца 1830-х гг. «Губернские ведомости» выходзілі ва ўсіх губернях і артыкулы па гісторыі, археалогіі і этнаграфіі друкаваліся ў іх неафіцыйнай частцы. Выданне матэрыялаў мясцовых архіваў спрыяла захаванню шматлікіх гістарычных дакументаў.

Самастойная выдавецкая дзейнасць камітэтаў пачынаецца з выпуску «Памятных книжек». Памятныя кніжкі Віцебскай, Гродзенскай і Мінскай губерняў выходзілі з 1860 г., Магілёўскай — з 1861 г. На іх старонках размяшчалася ўсё, што варта памяці. Сёння яны маюць вялікую каштоўнасць для гістарычных (у тым ліку генеалагічных, біяграфічных), геаграфічных, дэмаграфічных, этнаграфічных і краязнаўчых даследаванняў. Дазваляюць узнавіць карціну паўсядзённага жыцця губерняў, асобных населеных пунктаў ці мясцовасці, атрымаць звесткі пра заняткі людзей, стан эканомікі, прыроды, культуры на працягу больш чым 50 гадоў.

У сваёй структуры памятныя кніжкі мелі наступныя раздзелы: адрас каляндарны, дзе даваўся пералік усіх урадавых і грамадскіх устаноў і іх асабісты склад; даведачны прадстаўляў інфармацыю пра адміністратыўны падзел, пра паштовыя і тэлеграфныя ўстановы, шляхі зносін, прамысловыя, гандлёвыя і навучальныя ўстановы, лячэбніцы і аптэкі, музеі і бібліятэкі, кніжныя лаўкі; статыстычны размяшчаў звесткі пра насель-



ніцтва, сельскую гаспадарку, даныя статыстыкі судовых, медыцынскіх, народных аддзелаў; краязнаўчы — архіўныя дакументы, фальклорныя запісы, навуковыя артыкулы, біяграфічны і бібліяграфічны матэрыял, прыродазнаўчанавуковае апісанне. Усе пералічаныя пытанні прыдаюць памятным кніжкам выключную каштоўнасць і значнасць комплексных першакрыніц ведаў пра жыццё гарадоў Беларусі, а таксама іншых населеных пунктаў.

У кожнай губерні памятныя кніжкі мелі свае асаблівасці, з цягам часу мянялася іх структура. Так, Мінскі губернскі статкамітэт значную ўвагу надаваў збору статыстычных звестак пра склад і рух насельніцтва, стан медыцынскіх установаў, развіццё сельскай гаспадаркі і прамысловасці. Па запыце Цэнтральнага статыстычнага камітэта састаўляў археалагічную карту губерні. Прымаў удзел у падрыхтоўцы і правядзенні археалагічных з'ездаў. Актыўным членам камітэта быў вядомы гісторык, краязнавец, калекцыянер Г. Х. Татур. Сакратарамі працавалі М. Н. Здановіч, П. В. Занцэвіч, І. П. Галавачоў, А. П. Смародскі, В. І. Турцэвіч, А. М. Замяцін, В. С. Ярмаловіч. У Нацыянальным гістарычным архіве захоўваюцца памятныя кніжкі Мінскай губерні за 32 гады [2]. Кожнае выданне дае каляндарныя, даведачныя і адміністратыўныя звесткі. Асобныя артыкулы асвятляюць стан і жыццё гарадоў губерні. Гістарычныя нататкі пра гандлёвыя гарады Мінскай губерні маюцца ў выданні за 1873 г. [3] У 1891—1892 гг. А. П. Смародскі надрукаваў летапіс горада Мінска [4]. На старонках выданняў можна пазнаёміцца з гарадскімі правіламі, з артыкуламі Ф. Ястрэмскага «Статистическо-экономический очерк Минской губернии», Г. Х. Татура «О курганах Минской губернии», дзе прадстаўлены вынікі раскопвання каля 200 курганоў у мясцовасцях Думбы, Нягонічы і Шылава. Акрамя гэтага, ім даследаваны правалы вуліц горада Мінска [5]. У памятнай кніжцы на 1910 г. можна пазнаёміцца з кароткім гісторыка-статыстычным апісаннем Мінска [6].

Віцебскі губернскі статыстычны камітэт адкрываўся некалькі разоў, але з-за адсутнасці грашовых сродкаў існаваў намінальна. І толькі з 1863 г. яго дзейнасць была ўпарадкавана і стала больш прадукцыйнай. У верасні 1913 г. статкамітэт адзначыў свой 50-гадовы юбілей [7]. Сакратарамі камітэта працавалі К. А. Гаворскі (1863—1867), А. М. Семянтоўскі (1867—1878), А. М. Сазонаў (1879—1887) і А. П. Сапуноў (1888—1915). Членамі статыстычнага камітэта былі вядомыя ў горадзе краязнаўцы і гісторыкі. Сярод іх — вядомы этнограф і фалькларыст М. Я. Нікіфароўскі [8]. У 1901 г. членам камітэта быў абраны Дз. І. Даўгяла, старшыня віцебскай духоўнай семінарыі і архіварыус цэнтральнага архіва



старажытных актавых кніг Віцебскай і Магілёўскай губерняў. На працягу больш чым 50 гадоў «действительным членом по выбору» быў памешчык А. С. Бялыніцкі-Біруля [9]. У 1853 г. членамі статыстычнага камітэта праводзілася даследаванне гісторыі царкоўнай архітэктуры, складалася геаграфічнае апісанне губерняў. З 1867 г. камітэт займаўся разборам архіваў. У 1869 г. яму было даручана састаўленне гістарычных, археалагічных, этнаграфічных і адміністрацыйных статыстычных карт Паўночна-Заходняга краю. Камітэт вёў навуковыя даследаванні па даручэнню Эканамічнага, Геаграфічнага таварystваў, Імператарскай археалагічнай камісіі, Маскоўскага археалагічнага таварыства. Збіраў звесткі пра прыватныя археалагічныя калекцыі, а таксама пра курганы, гарадзішчы для састаўлення археалагічных карт. У Нацыянальным гістарычным архіве захаваліся памятныя кніжкі Віцебскай губерні за 13 гадоў [10]. У гістарычным раздзеле можна пазнаёміцца з працай іераманаха Сергія «Жизнеописание преподобной Евфросиньи, княжны полоцкой», у якім значная ўвага надаецца таксама гістарычнаму лёсу Спаскага манастыра пасля Ефрасінні і «Описание Маркова монастыря» [11]. Друкаваліся гістарычныя нарысы пра Віцебск А. Семянтоўскага, гісторыка-статыстычныя звесткі пра павятовыя гарады Віцебскай губерні (Веліж, Гарадок-Дынабург, Дрыса, Лепель, Полацк, Рэжыца, Себеж, Сураж; акрамя апісання, уключаюць планы гарадоў, мясцовасці і малюнкі Барысавых камянёў), Полацкую Сафійскую царкву, кароткі летапіс падзей, якія паўплывалі на лёс Віцебскай губерні, артыкул Ф. Сярэбрэнікава «Обычаи и обряды крестьян Себежского уезда Витебской губернии при крестинах, свадьбах, похоронах». Багаты статыстычны матэрыял дае інфармацыю пра колькасць жыхароў па саслоўях, па веравызнанню, пра колькасць будынкаў, цэркваў, прамысловых прадпрыемстваў у гарадах, лік рамеснікаў, рэкруцкія наборы і г. д. Даецца геаграфічнае апісанне Віцебскай губерні, якая знаходзілася на восьмым месцы сярод азёрных губерняў у Расійскай імперыі [12]. У памятных кніжках можна знайсці звесткі пра ўсіх землеўладальнікаў.

Асноўнымі навуковымі накірункамі дзейнасці Магілёўскага статкамітэта былі даследаванне гісторыі краю, вывучэнне археалагічных і археаграфічных матэрыялаў. Займаўся аховай культурных і гістарычных помнікаў. У 1911—1912 гг. збіраў звесткі пра баявыя трафеі рускай арміі і помнікі даўніны на тэрыторыі губерні. Сакратарамі камітэта працавалі М. Я. Дубенскі, А. А. Пацехін, А. А. Сіманоўскі, У. М. Астроўскі, М. І. Пілін, Г. Г. Данілаў, Г. П. Пажараў, І. І. Марчанка. У кніжках можна знайсці вельмі цікавыя гістарычныя матэрыялы і артыкулы: «Хроноло-



гические указания главных событий в крае» знаёмяць з падзеямі краю за дзесяць гадоў, шмат звестак пра паўсядзённае жыццё Магілёва, напрыклад усталяванне ў 1904 г. у горадзе тэлефоннай сеткі, складанне новага плана горада ў 1898 г., дадзены спіс асоб, якія ўпраўлялі Беларуска-Магілёўскім краем і Магілёўскай губерніяй пачынаючы з 1772 г. [13]; артыкул «Победа императора Петра I над шведами», прысвечаны 200-годдзю перамогі над шведамі каля вёскі Лясная [14]; галоўныя падзеі з Айчыннай вайны 1812 г., старонкі гісторыі Заходняй Расіі, кароткі змест усіх тамоў Зводу законаў Расійскай імперыі і інш.

Гродзенскі статыстычны камітэт таксама выконваў абавязковую працу па зборы статыстычных звестак. У 1873 г. па даручэнню Цэнтральнага статыстычнага камітэта збіраў звесткі пра курганы і гарадзішчы па

праграме прафесара Дз. Я. Самаквасава. Для Акадэміі мастацтваў — пра захаваўшыеся помнікі старажытнага мастацтва на тэрыторыі Гродзенскай губерні. У 1888 г. камітэт дапамагаў Маскоўскаму археалагічнаму таварыству ў складанні археалагічных карт. Усе матэрыялы былі сістэматызаваны і выдадзены камітэтам. Памятныя кніжкі Гродзенскай губерні ў сваёй структуры спачатку мелі тры асноўныя раздзелы: гістарычны; статыстычны; адрас-каляндар. У 1880-я гг. структура змянілася і ўключала: каляндарныя звесткі, асабісты склад урадавых і грамадскіх устаноў, статыстычны агляд Гродзенскай губерні за мінулы год і даведачныя звесткі [15]. Кніжкі на 1860 і 1866 гг. змяшчаюць гісторыка-статыстычны нарыс губерні, матэрыялы па старажытных праваслаўных цэрквах у Гродне, пра дзейнасць езуітаў і уніяцкія царкоўныя брацтвы ў Літве, апісанне ўнутранага і знешняга гандлю старыжытнай Літвы. У памятнай кніжцы на 1869 г. апісана дамашняе жыццё і норавы вышэйшага саслоўя ў Літве ў XVI—XVII ст. Значная ўвага надаецца гістарычнаму апісанню гарадоў Гродзенскай губерні. У выданні 1890 г. прадстаўлены звесткі пра гарадзішчы і курганы на тэрыторыі губерні.

Памятныя кніжкі шмат гадоў з'яўляліся самымі значнымі мясцовымі выданнямі. Выходзілі невялікімі тыражамі і разыходзіліся пераважна ў межах сваіх губерняў. З самага пачатку станавіліся бібліяграфічнай рэдкасцю. Сёння ў Нацыянальным гістарычным архіве і бібліятэках Беларусі няма поўнага камплекта гэтых выданняў. Таму памятныя кніжкі павінны разглядацца як каштоўныя і рэдкія выданні. Нават у калекцыі памятных кніжак Расійскай нацыянальнай бібліятэкі не хапае каля 8 % ад усіх вядомых выданняў. Папярэдні спіс даецца ў кнізе Н. М. Балацкай і А. І. Раздорскай [16]. У апошнія гады пачалі выходзіць з друку памятныя кніжкі асобных рэгіёнаў Расійскай імперыі [17]. Адсутнасць



асобных выданняў, інфармацыі пра знаходжанне захаваўшыхся памятных кніжак стварае сур'ёзныя перашкоды для беларускіх і замежных даследчыкаў. Важнай задачай сёння з'яўляецца выяўленне і капіраванне рэдкіх і унікальных выданняў памятных кніжак для пашырэння доступу да іх самага шырокага кола чытачоў.

**ЛІТАРАТУРА**

1. История Могилевского музея. 1867—2004 // http://mogilewmuseum. iatp. by/history. html
2. НГАБ. Памятныя кніжкі Мінскай губерні на 1869—70, 1872,1874, 1880, 1883, 1886, 1889, 1893—99, 1900—15, 1917 гг.
3. НГАБ. Памятная книжка Минской губернии на 1873 год. Минск, 1973.
4. НГАБ. Памятная книжка Минской губернии на 1891 год. Минск, 1891. Памятная книжка Минской губернии на 1892 год. Минск, 1892.
5. НГАБ. Татур Г. Х. О курганах Минской губернии // Памятная книжка Минской губернии на 1894 год. Минск, 1894.
6. НГАБ. Краткое историко-статистическое описание г. Минска // Памятная книжка Минской губернии на 1910 год. Минск, 1910.
7. НГАБ. Памятная книжка Витебской губернии на 1914 год. Витебск, 1914.
8. НГАБ. Памятная книжка Витебской губернии на 1902 год. Витебск, 1902.
9. НГАБ. Памятная книжка Витебской губернии на 1914 год. Витебск, 1914.
10. НГА Беларусі. Памятныя кніжкі Віцебской губерні на 1864—65, 1878, 1882—83, 1895, 1898, 1900, 1902, 1909—10, 1912 і 1914 гг.
11. НГАБ. Памятная книжка Витебской губернии на 1864 год. СПб., 1864.
12. НГАБ. Памятная книжка Витебской губернии на 1878 год. Витебск, 1878.
13. НГАБ. Памятная книжка Могилевской губернии на 1907 год. Могилев, 1907.
14. НГАБ. Памятная книжка Могилевской губернии на 1909 год. Могилев, 1909.
15. НГАБ у Гродна. Памятныя кніжкі Гродзенскай губерніі на 1847—48, 1857—61, 1864—67, 1869—1815 гады.
16. *Балацкая, Н. М.* Памятные книжки губерний и областей Российской империи (1836—1917) / Н. М. Балацкая, А. И. Раздорский / Предварительный список. СПб., 1994.
17. Памятные книжки губерний и областей Российской империи. Европейский север. Т. 1. СПб., 2002.